# КРЫВІНКА

ЛЮТЫ
№ 3 (104)
2012 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




”Нельга есці хлеб народа і грэбаваць ягонай мовай”.
**Ул. Караткевіч.**

МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## МОЎНЫ РЭФЕРЭНДУМ

18-га лютага ў Латвіі адбыўся рэферэндум. Ініцыявала яго меншасць, якая тут пражывае – руская. Вельмі ўжо карцела ім надаць расейскай мове ў Латвіі статус другой дзяржаўнай. Але 75% насельніцтва прагаласавала супраць гэтага. У рэферэндуме прыняло ўдзел больш 70% выбарцаў – гэта рэкордная яўка для Латвіі. Для маленькай Латвіі з насельніцтвам менш за два мільёны чалавек гэта, несумненна, перамога.

Доля расейцаў у насельніцтве Латвіі вырасла з 9 % у 1935-м годзе да 27 % у 1959-м. За часы незалежнасці Латвіі доля латышоў некалькі вырасла, з 52-х % да 62 %. Расейцаў адсюль ніхто гвалтам не выганяў. Ім прапаноўвалася і прапаноўваецца сёння здаць экзамен на валоданне латышскай мовы і гісторыі. Той, хто экзамен вытрымае і прынясе клятву на вернасць Латвіі, атрымае статус грамадзяніна краіны. Паводле апошняга перапісу неграмадзян у Латвіі сёння налічваецца 290 000 чалавек. Раней гэта лічба была значна большая, але 134 тысячы за апошнія гады ўжо скарысталіся правам атрымання грамадзянства і паспяхова здалі экзамен. Астатнія не спяшаюцца, бо і не з'яўляючыся грамадзянамі, яны маюць усе тыя самыя правы, што і грамадзяне, акрамя ўдзелу ў галасаванні. Яны нават вольна перамяшчаюцца па Эўразвязе, сябрам якога з'яўляецца Латвія.

Супраць надання расейскай мове статусу дзяржаўнай галасавала нават частка этнічных расейцаў, якая разумее нацыятворчае і культурнае значэнне латышскай мовы і паважае родную мову карэннага насельніцтва.

Між тым, школы на расейскай мове ў Латвіі існуюць, газеты на расейскай мове выходзяць, прадстаўнікі расейскай меншасці ў парламенце ёсць. Але камусьці ад падобнай дэмакратыі цяжка дыхаць. Ім вельмі хочацца збіць з панталыку насельніцтва маленькай дзяржавы, якая толькі-толькі вырвалася з-пад расейскага ўплыву і вольна ўздыхнула.

Чым можа пагражаць дзвюхмоўе для краіны, нашы паўночныя суседзі, магчыма, ведаюць з горкага беларускага досведу. Бо ў нашай краіне з ледзь не дзесяцімільённым насельніцтвам роднай мовай амаль не пахне.

А таму ў Латвіі ў бліжэйшай будучыні будуць гаварыць палатышску.

**Г.Станкевіч.**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## АЎГАНСКІ БОЛЬ

У снежні 1979-га савецкае кіраўніцтва, каб падтрымаць тамтэйшую апазіцыю, рашылася на ўвод савецкіх войск у Аўганістан. Да таго часу савецкія хлопцы “дапамагалі” будаваць камунізм у розных кропках зямной кулі. Ваявалі яны і ў Паўночнай Карэі ў 1953-м, і ў Віетнаме, у афрыканскіх Анголе і Мазамбіку ў 80-х гадах. Але тое былі лакальныя войны, ў якіх удзельнічалі пераважна савецкія ваенныя саветнікі. Яны дапамагалі мясцовай апазіцыі аваладваць савецкай зброяй. Забітых у тых войнах з савецкага боку было некалькі дзясяткаў.

Дапамагаў СССР устанаўліваць савецкі лад на свой узор у ГДР у 1961-м, Венгрыі ў 1956-м, Чэхаславаччыне ў 1968-м, калі тамтэйшы люд адкрыта выказваўся супраць такога ладу. Але і тут справа абмяжавалася таксама некалькімі дзесяткамі загінулых з боку СССР.

У Аўганістане СССР заграз грунтоўна ў вялікай вайне, якая цягнулася амаль дзесяць гадоў аж да 1989-га і скончылася ганебным выводам войск. Чаму ганебным? Ды таму, што ўвод войск(па сутнасці – ваенная інтэрвенцыя)стаў прычынай грамадзянскай вайны на ўзор расейскай у 1918-1921-м. Тады ў Расейскай імперыі загінула ці памерла ад хвароб каля 20 мільёнаў чалавек. Інтэрвенцыя ў Аўганістан і наступная грамадзянская вайна таксама прынесла аўганскаму народу мільённыя ахвяры і пакуты.

І вось сёння беларускае вышэйшае кіраўніцтва штогод напамінае грамадству пра той вывад войск, які адбыўся пасля “выкананага інтэрнацыянальнага доўгу”. Ладзяцца паседжанні, сустрэчы, удзельнікі тых падзей узнагароджваюцца медалямі. А, галоўнае, што падобныя мерапрыемствы лічацца “вкладом в воспитание патриотов Родины”.

Але ці маем мы на тое маральнае права, аб'яўляць удзельнікаў гэтай вайны героямі, якія баранілі нашу Радзіму – Беларусь? Зразумела, не. Удзельнікі аўганскіх падзей 1979 – 1989 г.г. з'явіліся заложнікамі савецкай сістэмы, якая не цырымонілася, калі справа тычылася прасоўвання сваіх інтарэсаў. Пабудаваная на гвалце, імперыя не надавала вартасці ніякім маральным каштоўнасцям. Вайна на тэрыторыі іншай краіны, дзе гінуць мільёны простага люду, для імперскай думкі – шараговая падзея, вартая ўвагі, калі пры гэтым у той краіне усталёўваецца савецкая ўлада.

Незалежная Беларусь ні ў якім разе не з'яўляецца спадкаемцай СССР. І ўсе былыя савецкай закваскі святы з цягам часу адамруць, адыдуць у мінулае, вызваляць месца народным, беларускім. А беларуская дзяржава мусіць узяць для патрыятычнага выхавання сваіх грамадзян тыя падзеі, удзел у якіх быў сапраўды лёсавызначальным для існавання самой беларускай дзяржавы і яе народа. Іх у нашай гісторыі больш чым дастаткова. (Успомнім хаця б Грунвальд 1410-га, Крапівенскае поле 1514-га ці 25-га сакавіка 1918-га). Толькі ўладзе, якая не мае жадання нават загаварыць з людзьмі на роднай мове, тыя гістарычныя падзеі не цікавяць. І таму яна карыстаецца спекулятыўнай падробкай. Лёсаноснымі аб'яўляюцца падзеі, якія былі адносна нядаўна і закранулі многіх людзей. Тое, што яны не вартыя, каб прэтэндаваць на статус падзей дзяржаўнага значэння, нікога не пераймае (не хвалюе). Як і тое, што ўсе тыя падзеі адбываліся ў паўкаланіяльнай БССР. Галоўнае, што імі можна пабразгатаць і ў чарговы раз адцягнуць увагу ў грамадстве ад сапраўды важных датаў. Імі лукашэнкаўскія ідэолагі запаўняюць нішу ў пустой скарбонцы дзяржавы, якая толькі-толькі пазбавілася каланіяльнага статусу.

А што самі ўдзельнікі аўганскіх падзей? Яны прайшлі праз цяжкія выпрабаванні і маральныя пакуты. Сёння яны маўклівa прымаюць медалі і з'язджаюцца на юбілейныя ўрачыстасці. Існая ўлада выкарыстоўвае іх геразім у сваіх інтарэсах. Хаця падсвядома яны, здаецца, павінны разумець кошт свайго гераічнага мінулага. Дзяржава, замест таго, каб даць ім магчымасць забыцца пра крывавыя падзеі, штогод крывяніць іхнія параненыя душы зноў і зноў. А ім патрэбна ціхая памяць і годнае дастойнае жыццё. Бо іхняй віны ў тым, што было праліта столькі крыві далёкага аўганскага народа, няма аніякай.

Выплаціць усім удзельнікам аўганскіх падзей дастойныя пенсіі, якія б кампенсавалі іхнія маральныя пакуты – на тое ў сучаснай беларускай дзяржавы няма ні сродкаў, ні, здаецца, і жадання. Прамаўляць палкія прамовы з высокіх трыбунаў і бразгатаць юбілейнымі медалямі – яно значна танней.

**Г.Станкевіч.**

ВЁСКА ЎЗІМКУ

## АД СНЕГАПАДУ ДА СНЕГАПАДУ

Ноч на 22-га лютага была першаю ноччу ў лютым без вялікіх маразоў. Але гэтай жа ноччу ці то Атлантыка, ці то паўднёвы цыклон прынёс чарговы падарунак – снегапад. Ён быў не такі і магутны, але моцным ветрам перамятала дарогі, і асабліва там, дзе не было перашкодаў. Калі пры дарозе стаялі кусты, до яна была на дзіва чыстая ад снегу. Калі ж замест кустоў пры дарозе тырчэў з-пад снегу леташні няскошаны быльнік, то вецер з поля намятаў на дарогу паўметровыя сумёты ўровень з тым быльнікам.

Іхнюю глыбіню я дакладна вымераў, калі ранкам адкопваў свой легкавік на паўкіламятровым адрэзку дарогі, каб прарвацца на работу. Там, у цёплых класных пакоях, амаль пад вясновым сонцам думалася, што на зваротным шляху будзе лягчэй. Але і ў палове чацвёртай апоўдні дарога дахаты выглядала па-ранейшаму сумна. Каляя, якой я праравўся раніцай, была паглыблена і раз'езджана грузавымі аўта. А дарога па-ранейшаму гурбілася сумётамі.

Калі ў чатыры гадзіны беларускі прагноз выдаў на наступную ноч снегапады, мяне ўзарвала. Але на званок у ДРСУ салодкі жаночы голас праспяваў, што дарогу на Дубраўку на днях пачысцяць. Маім наступным тэлефонным суразмоўцам стаў старшыня райвыканкама. Я назваў сябе і коратка абмаляваў сітуацыю. Мяне папрасілі пачакаць і я пачуў, як у другі тэлефон старшыня выканкама аддаваў кароткія ўказанні. Менш як праз гадзіну па Ранчыцах паехаў калгасны трактар-пагрузчык, за якім зазду следаваў сельсавецкі легкавік. Пагрузчык хвілін за дваццаць на вялікай хуткасці праскочыў па ранчыцкіх вуліцах і знік у Верхнім Крывіне. Ён не расчысціў дарогу цалкам, а толькі прабіў перад сабой праз вёску тунэль, па якому не раз'едуцца дзве машыны. Але цяпер да наступнага снегападу можна будзе карыстацца легкавіком без асаблівых праблем.

Вось так мы і жывём: ад званка да званка, ад снегападу да снегападу.

**Г.Станкевіч.**

**P.S.** Як добра, што старшыня райвыканкама не хаваецца ад людзей, а дапамагае ім. І як дрэнна, што мясцовая ўлада не мае ні рэсурсаў, ні вялікага жадання, каб выконваць тую функцыю, дзеля якой яе выбіраюць.

*21-га лютага – Дзень роднай мовы*

## РОДНАЯ МОВА

*Кажуць, мова мая аджывае*
*Век свой ціхі: ёй знікнуць пара.*
*Для мяне ж яна вечна жывая,*
*Як раса, як сляза, як зара.*

*Гэта ластавак шчабятанне,*
*Звон світальны палескіх крыніц,*
*Сінь чабору, і барвы зарніц,*
*І буслінае клекатанне.*

*Калі ж хто загадае: “Не трэба!” –*
*Адрачэцца ад мовы народ, –*
*Папрашу я і сонца, і неба:*
*Мне не трэба ні славы, ні хлеба,*
*Асудзіце на безліч нягод.*

*Толькі месяцаў назвы пакіньце,*
*Назвы родныя роднай зямлі,*
*Пра якія з маленства ў блакіце*
*Бор шуміць і пяюць жураўлі:*

*Студзень – з казкамі снежных аблокаў,*
*Люты – шчодры на сіні мароз,*
*Сакавік – з сакатаннем і сокам*
*Непаўторных вясновых бяроз,*

*Красавік – час маланак і ліўняў,*
*Травень – з першым каханнем, сяўбой,*
*Чэрвень – з ягаднаю зарой,*
*Ліпень – з мёдам,*
*З пшаніцаю – жнівень,*

*Спелы яблачны верасень,*
*Светлы кастрычнік*
*У празрыстасці чыстай, крынічнай,*
*Лістапад – залаты лістапад,*
*Снежань – першы густы снегапад…*

*Ці плачу я, ці пяю,*
*Ці размаўляю з матуляю –*
*Песню сваю, мову сваю*
*Я да грудзей прытульваю.*

**Пімен Панчанка.**

*1964*

НАША СПАДЧЫНА

## Служэнне Айчыне – але якой?

Вядома, як лёгка можна задурыць галаву бязвусым юнакам, якія паўжыцця аддалі б за тое, каб не тое што стрэліць, нават каб патрымаць у руках сапраўдную зброю. А калі яшчэ да гэтага нармальнага мужчынскага жадання падключаецца дзяржава, з яе магутным ідэалагічна-выхаваўчым апаратам, то вынік можа атрымацца самы выдатны. Напярэдадні 23-га лютага гэта бачна асабліва яскрава. Толькі ненармальная газета у Беларусі ў гэтыя дні можа абысці такую выйгрышную тэму як Дзень абароны Айчыны бокам. А ўсе нармальныя СМІ публікуюць процьму артыкулаў, дзе аж мільгаціць увачу ад слоў "патрыятызм", "доўг", "пачэсны абавязак", "слаўныя традыцыі", "самаахвярнае служэнне" і т. п.

А як жа з вайсковай службай на самой справе? Калі апытаць тых, хто ўжо прайшоў вайсковую школу, то сустрэнецца шмат такіх, якія адкажуць, што гэта – марная трата часу і здароўя. Менавіта для такіх грамадзян у большыні дэмакратычных краінаў прадугледжана замена "пачэснаму абавязку" на менш пачэсны – так званая альтэрнатыўная служба. Зразумела, той, хто стаў прафесійным вайскоўцам і ўжо ў 45 гадоў атрымоўвае добрую вайсковую пенсію ці мае на гэта нейкі спадзеў, будзе абараняць свае пазіцыі з пенай у роце. А тыя, хто мае досвед будоўлі генеральскіх прыбіральняў, застануцца пры сваёй думцы.

Але і тыя і другія мусяць пагадзіцца, што армія – рэч даволі дарагая. Не ўсялякая краіна можа дазволіць сабе трымаць вялікую боегатоўную армію, адрываючы ад бюджэту краіны ладны кавалак, які так прыдаўся б, каб падкарміць пенсіянераў ці настаўнікаў. Тым больш, што пры імклівым развіцці сучаснай зброі, валяваць прыйдзецца толькі дзень-другі. Або, наогул, ці прыйдзецца. Бо наш свет імкліва змяняўся. І толькі абсалютна сляпы можа жыць ідэямі і ідэаламі паўвекавой даўніны, не зважаючы на новы час.

Памятаеце, існавала такая арганізацыя "Варшаўская дамова". Яна аб'ядноўвала дзесятак еўрапейскіх краін сацыялістычнага лагеру, якія былі гатовыя пад камандай СССР аж да смерці ваяваць з НАТА. Сёння ж бальшыня тых краін ужо з'яўляецца сябрамі таго самага страшнага НАТА, з якой, на шчасце, так і не паспелі паваяваць. І насельніцтва гэтых краін не пратэставала, калі іхнія кіраўнікі рэзка памянялі кірунак з савецкага на натаўскі. Арміі гэтых краін за апошнія дваццаць гадоў імкліва зменшыліся, затое ўзровень жыцця іхніх грамадзян значна вырас. У іхніх газетах, нават калі будзеш чытаць вельмі ўважліва, не стрэнеш выразаў "пачэсны абавязак" і "патрыятызм", але і салдаты там не будуюць генеральскіх прыбіральняў. Патрыятычным у гэтых краінах лічыцца высокаплачваемая праца для сябе, а не на "благо Родіны", не нейкія бессэнсоўныя заклікі да "захавання і прыумнажэння традыцый отцов і дедов".

Наша ідэалагічная машына набрала ўжо абароты і ўзяла на прыцэл самых безабаронных – школьнікаў. Краіна пакрысе пераўтвараецца ў ваенізіраваны лагер, гэта калі ўсё па камандзе, строем. У старэйшых класах агульнаадукацыйных школаў з далёкіх ўжо савецкіх часоў і часоў халоднай вайны застаўся прадмет ваенізаваная падрыхтоўка. У Беларусі з 2010-га года адкрыта 8 кадэцкіх вучэльняў. Форму для навучэнцаў у вучэльнях скапіравалі з той, якая была ў царскай Расеі. Мова навучання там таксама – расейская. Асноўны багаж ідэй, як бачна, таксама застаўся без змен. А што хаваецца за расейскім "патриотизмом", "долгом"і т.п., думаецца, нікому тлумачыць не трэба.

Беларусь за сваю гісторыю найбольш цярпела ад сваёй усходняй суседкі. Пачынаючы з 15-га стагоддзя і да апошняга падзелу Рэчы Паспалітай у войнах з Расеяй наша краіна страціла столькі люду, колькі не забралі абедзьве сусветныя войны з немцамі. Каб не тыя войны, сённяшняя Беларусь мела б 20 – 30 мільёнаў жыхароў. Але ўрэшце нам навязалі чужую культуру, прымусілі адмовіцца ад мовы, прымусілі жыць чужымі законамі і спяваць чужыя песні. І сёння, калі чарговы прамоўца заклікае да служэння "Отечеству" і віншуе са святамі, якія далёкія ад беларускіх святаў, а тое вітаецца і на дзяржаўным і на бытавым узроўні, хочацца ні то смяяцца, ні то плакаць.

**Г.Станкевіч.**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## БУДНІ РАЁННАГА ГАНДЛЮ

Пачарнелыя бананы, гнілыя яблыкі, звялыя данельга цытрусавыя, сумнеўнай якасці іншая садавіна – гэта будні бешанковіцкага ўніверсама. Падобны малюнак можна назіраць і ў мясным аддзеле. Яўна не першай свежасці ялавічына. Часам і залежалая свініна, якую не хочацца браць у рукі. Але калі мяса не першай свежасці пусцяць на фарш і начыняць каўбас, то з садавіной такія дзеянні не праходзяць. Каўбасу з садавіны рабіць яшчэ не навучыліся, а Фролкавіцкі кансервавы завод знішчаны. Таму няякасныя прадукты проста мусяць спісаць.

Не раскупляюць садавіну ў нашым універсаме з-за яе дарагавізны. Пагадзіцеся, у Віцебску яе можна купіць аж у паўтара раза танней. А так як кожны другі жыхар Бешанковіч больш-менш рэгулярна наведвае абласны цэнтр, то і закупкі для сваёй сям'і робіць там. Таямніцай пакуль што застаецца тое, чаму раённае спажывецкае таварыства (РСТ) не хоча прадаваць садавіну ў самім райцэнтры па нармальных коштах. Няўжо яно ўсур'ёз лічыць, што завышэнне коштаў на прадукты з іхнім наступным спісаннем – гэта адзіна правільны шлях да спажыўца? Не за звышпрыбыткамі трэба гнацца, а забяспечваць жыхароў раёна якаснымі карыснымі прадуктамі.

Простыя разлікі паказваюць, што тыя ж яблыкі былі б цалкам канкурэнтаздольнымі і добра раскупляліся, калі б гандлёвая надбаўка на іх была ў межах 10 – 15%. На кожнай прададзенай тоне гэтага каштоўнага прадукту РСТ змагло б атрымаць 1–1,5 мільёна прыбытку. Але кіраўніцтва РСТ хоча атрымаць гэты прыбытак з 200 кілаграмаў прададзеных яблык і ўздымае надбаўку да 50%. Вось таму ўзамен яно атрымлівае няякасную прадукцыю. Людзі з ахвотай купляюць яблыкі на калгасным рынку, купляюць ці даюць заказы знаёмым на Віцебск, а напаўняльнасць раённага бюджэту застаецца галаўным болем толькі сп.Пянькоўскага.

**Л.Паўлава.**



ДАБРАЎПАРАДКАВАННЕ

## ВУЛІЦА ІМЯ ВАЛАДАРСКАГА

26-га лютага ў рэдакцыі "Зары" адбудзецца "круглы стол", на якім будзе абмеркавана пытанне рэканструкцыі вуліцы імя Валадарскага. Да абмеркавання запрашаюцца ўсе зацікаўленыя асобы. Я штодзённа карыстаюся гэтай вуліцай, едучы на работу і дахаты, а таму маю жаданне падзяліцца сваімі думкамі наконт праблемы.

Пытанне наконт неабходнасці ходніка па Валадарскага, на маю думку, залішняе. Ходнік на гэтай вуліцы патрэбны даўно, так як ён патрэбны і па Карла Маркса, і па Свабодзе. Аднак ёсць меркаванне, што пры яго абсталяванні вуліца звузіцца да мінімуму, што не дазволіць двухбаковы рух транспарту. А таму яе могуць зрабіць вуліцай з аднабаковым рухам. Я лічу, што пры разумным падыходзе вуліцу можна зрабіць шырокай і пры тым знайсці месца для ходнікаў. Калі сродкаў, што выдзеляюць на рэканструкцыю, дастаткова, канаву, якая абмяжоўвае заходні бок вуліцы, можна змясціць у бок дамоў, падкопваючы прылягаючы да дамоў бок канавы і засыпаючы супрацьлеглы бок. Калі ж сродкаў недастаткова, канаву можна і не чапаць, а ходнік размясціць па другі бок канавы, бліжэй да хацін. Але з усходняга боку вуліцы ёсць некалькі хацін, якія стаяць пры самой вуліцы і не дазваляюць выканаць такі праект па гэтым баку вуліцы. Так што, гэта будзе толькі палавінчатым вырашэннем пытання. Таму, на маю думку, трэба шукаць сродкі і выконваць паўнавартасную рэканструкцыю вуліцы – з перамяшчэннем прыдарожнай канавы на заходнім баку дарогі. Тыя хаціны, што ляжаць на гэтым баку, замінаць выконванню работ не будуць.

Іншая справа, што пры рэканструкцыі вуліцы пара пераходзіць да еўрапейскіх стандартаў. То бок праектаваць ходнік як для пешаходаў, так і для веласіпедыстаў. Бо калі правесці маніторынг, колькі людзей па Валадарскага цягам дня карыстаецца роварамі, то лічба выйдзе амаль што трохзначная. А таму ходнік трэба рабіць хаця б на паўметра шырэйшы, чым тыя, што залетась паклалі па Урыцкага і Раманава.

А яшчэ, выканваючы праект рэканструкцыі, трэба абавязкова прадугледзіць невялікія паркінгі для легкавікоў каля дзіцячага садка і ясляў па Валадарскага. Бо сітуацыя тут у ранні гадзіны вельмі напружаная. Месца для такіх паркінгаў таксама можна знайсці.

**Г.Станкевіч.**

## "КРЫВІНКА" Ў ІНТЭРНЭЦЕ

У сувязі з праблемай размяшчэння газеты "Крывінка" на партале http://haradok.belarda.org/ наша газета стала будзе размяшчацца на партале **http://kamunikat.org/**, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: **http://kamunikat.org/kryvinka.html**, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.

БАРАЦЬБА СА ЗЛАЧЫННАСЦЮ

## ЧАМУ Ў НАС МОЖНА КРАСЦІ І НЕ СЕСЦІ

Згодна афіцыйнай статыстыцы за мінулы год, у раёне не раскрыта большая палова крадзяжоў. То бок, са 168-і раскрыта толькі 83.

Згодна той жа статыстыцы, бальшыня такіх злачынстваў робіцца непрацуючымі людзьмі, якія сябруюць з выпіўкай. Украў – прадаў – выпіў, вось кароткая схема іхніх дзеянняў. Калі б падобная статыстыка сапраўды мела рацыю, то раскрываемасць такога рода злачынстваў мусіла быць не 50%, а значна вышэйшай. Калі ж раскрыць падобныя злачынствы міліцыянты не могуць, гэта сведчыць або пра іншую схему крадзяжоў, або пра яўна недастатковую работу ўчастковых міліцыянтаў.

Калі глядзіш расейскія серыялы тыпу "Сямейных дэтыктываў", то бачыш, наколькі раскрываемасць злачынстваў залежыць ад работы ўчастковага. І для гэтага зусім не трэба быць Шэрлакам Холмсам, трэба толькі жыць на тэрыторыі свайго ўчастка і шчыльна пазнаёміцца з кантынгентам, што тут пражывае. Трэба быць у добрым кантакце з нармальнымі жыхарамі, якія і падкажуць і папярэдзяць. Тыя, хто сёння здольны на злачынствы, адразу навідавоку. Яны штодзень блытаюцца п'янымі па вясковых вуліцах, або на добрым падпітку штодзень вяртаюцца з працы. Іх ніхто не чапае, нават той жа міліцыянт, калі сутыкаецца тэт-а-тэт, пакуль у яго на ўчастку нешта не "загарыцца". Але ж не спайманы – не злодзей. А той п'яніца, хто адважыцца на крадзёж, можа дзень-другі і не піць, залегчы на дно. Здаецца, яго і падазраваць неяк: чалавек жа часова завязаў.

Што тычыцца крадзяжоў калгаснай маёмасці, то заяўленая іх колькасць, здаецца, толькі бачная частка айсбергу. Памятаеце народнае выслоўе: "Хто ў калгасе не злодзей, той дома не гаспадар". Яно праўдзіць і сёння. Бо цягнуць з калгасу ўсе: хто мае трактар – вязе трактарам, хто не мае – канем, ці нясе ў кішэні. Крызісныя з'явы ў эканоміцы краіны ўдарылі і па сялянскіх даходах. Працаваць сяляне працуюць, як і раней, а вось іхнія заробкі ўпалі. Чаму б тут не "падправіць" іх, тым больш, што ў асноўнай масе калгасаў зрабіць тое вельмі проста. Бо часта і зерне, і мука ўзважваюцца ў свірнах толькі прыблізна, або наогул не ўзважваюцца. І не трэба быць пракурорам, каб даказаць, што значная доля калгаснага дабра ідзе міма калгаса. Раней да мяне дахаты прыцемкам пастаянна завітвалі нападпітку няпрошаныя госці. Маўляў, ці патрэбна мука ці зерне. І толькі маё настойлівае "не, свайго хапае", прымусіла дабрадзеяў змяняць іхнія планы і ўжо пару гадоў, як яны не наведваюцца. Але ж я часам сутыкаюся з імі на дарозе, бо яны працягваюць развозіць сваю "гуманітарную дапамогу" іншым.

Кардынальныя змены на сяле ў барацьбе з крадзяжамі магчымыя толькі пры змяненні формы ўласнасці. Сам у сябе гаспадар красці не будзе. І калі ён нешта мае, то сто разоў падумае, ці браць мяшок крадзенага, калі ў дадатак можаш згубіць усё сваё.

**М.Васільеў.**

НАША ЎЛАДА

# ЛУКАШЕНКО НАЗВАЛ ЗАРПЛАТУ 500 ДОЛЛАРОВ НИЗКОЙ

ГЛАВА БЕЛАРУСИ ПОТРЕБОВАЛ В КРАТЧАЙШИЕ СРОКИ НЕ ПРОСТО ВЫЙТИ НА ДОКРИЗИСНЫЙ УРОВЕНЬ ДОХОДОВ, А ПРЕВЗОЙТИ ЕГО: «ЕСЛИ МЫ ПОЗИЦИОНИРУЕМ СЕБЯ, КАК СТРАНА САМОДОСТАТОЧНАЯ, КОТОРАЯ ЧЁ-ТО МОЖЕТ…»

Эта тема вновь всплыла 21 февраля во время рассмотрения Александром Лукашенко кадровых вопросов. Руководитель Беларуси говорил, как заправский оппозиционер:

– Что такое средняя зарплата в 500 долларов на человека? Это совсем низкий уровень…

Стоит отметить, что в декабре 2011 года средняя зарплата в Беларуси составила, по данным Национального статистического комитета, 2 877 658 рублей, или 344 доллара в эквиваленте, если для пересчета использовать курс Нацбанка на 1 января 2012 года. Получается, что до «низкого уровня» нам еще очень далеко.

Однако Александр Лукашенко оптимистично поставил задачу на протяжении года-полутора не просто выйти на докризисный уровень доходов, а превзойти его. «Если мы позиционируем себя, как страна самодостаточная, которая чё-то может», – добавил глава государства.

Впрочем, «Салідарнасць» припоминает, что задача превзойти 500-долларовую отметку уже ставилась. И было это четыре года назад.

29 апреля 2008 года, выступая с посланием к белорусскому народу, Александр Лукашенко обратился к тогдашнему премьер-министру Сергею Сидорскому:

– Сергей Сергеевич, надо возвращаться к требованию повышения заработной платы. Другого пути нет. На конец пятилетки нам надо заработную плату довести, боюсь говорить, до 700 долларов, никуда не денемся. 500 долларов будет мало. Надо 700 – среднюю зарплату по стране.

Глава правительства взял под козырёк. Зарплату стали наращивать, но через восемь месяцев грянула знаменитая новогодняя девальвация. С тех пор о 700 долларах никто даже не заикался.

Вторая попытка взять 500-долларовую планку закончилась еще веселее. После краткого периода благоденствия рубль в середине 2011-го обвалился со страшным треском.

И вот объявлен третий заход. Чем он закончится, вы уже знаете…

**Вадим Ливнев.**

СЛОВЫ І СПРАВЫ

# ЭКСПАРТНЫ ЦУД БЕЛАРУСІ: ЯК КРАІНА ЗАВАЯВАЛА ЕЎРАСАЮЗ

БЕЛАРУСЬ У 2011 ГОДЗЕ ДАСЯГНУЛА РЭКОРДНАГА ЗА ЎСЮ СУВЕРЭННУЮ ГІСТОРЫЮ АБ'ЁМУ ЭКСПАРТУ. ЗВЯРТАЕ НА СЯБЕ ЎВАГУ ТОЙ ФАКТ, ШТО ЭКСПАРТНЫ БУМ БЫЎ ЗАБЯСПЕЧАНЫ ШМАТ У ЧЫМ ЗА КОШТ ПАСТАВАК БЕЛАРУСКАЙ ПРАДУКЦЫІ Ў КРАІНЫ ... ЕЎРАСАЮЗА. НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА СКЛАДАНЫЯ ПАЛІТЫЧНЫЯ АДНОСІНЫ, КРАІНЫ ЕС З РАДАСЦЮ ГАНДЛЮЮЦЬ З БЕЛАРУССЮ, ЯКАЯ ЗАБЯСПЕЧВАЕ ЗАХАД НАФТАПРАДУКТАМІ І НАВАТ НАФТАЙ.

**Палітычныя сябры шкодзяць беларускаму гандлю**

У 2011 годзе, паводле дадзеных афіцыйнай статыстыкі, Беларусь экспартавала тавараў на суму 40,3 млрд. даляраў і павялічыла гэты паказчык у параўнанні з 2010 годам амаль на 60%.

Дзякуючы рэзкаму росту экспарту нашай краіне ў мінулым годзе ўдалося паменшыць адмоўнае сальда гандлёвага балансу, якое, як вядома, з'яўляецца коранем шматлікіх эканамічных праблемаў Беларусі. Калі ў 2010 годзе краіна мела адмоўнае сальда ў знешнім гандлі таварамі на ўзроўні 9,6 млрд. даляраў, то ў 2011-м - 5,45 млрд. даляраў.

Праўда, як гэта ні парадаксальна, нашы палітычныя саюзнікі (Расія, Кітай, Венесуэла) толькі пагаршалі гандлёвы баланс Беларусі.

Адмоўнае сальда ў знешнім гандлі з Расеяй вырасла ў 2011-м з 8,13 млрд. да 11,24 млрд. даляраў. Імпарт тавараў з Кітая перавысіў беларускі экспарт у гэтую краіну на 1,55 млрд. даляраў (у 2010-м адмоўнае сальда складала 1,2 млрд. даляраў). Нарэшце, «мінус» у гандлі з Венесуэлай у мінулым годзе склаў 931 млн. даляраў, што больш чым на 80 млн. перавышае адмоўнае сальда за 2010 год.

Цяпер пагледзім на гандлёвыя адносіны з нашымі палітычнымі апанентамі - краінамі Захаду. Адносіны ў нас з гэтымі краінамі настолькі дрэнныя, што падставы для папрокаў ўзнікаюць ці ледзь не кожны дзень. За апошні тыдзень беларускія ўлады тройчы крытыкавалі Захад (17 лютага МЗС асудзіў рэзалюцыю Еўрапарламента, 21 лютага - польскіх парламентарыяў за «канспіратыўных» візіты », а 23 лютага ўжо Аляксандр Лукашэнка абвінаваціў Захад у спробах «гвалтоўнай змены ўлады»).

Тым не менш, складаныя палітычныя адносіны зусім не перашкаджаюць Беларусі развіваць гандаль з краінамі ЕС. Скажам больш: калі б не Еўрасаюз, ніякай станоўчай дынамікі ў знешнім гандлі Беларусі ў 2011 годзе не было б і ў памоўцы.

*Дынаміка экспарту беларускіх тавараў у 2000-2011 гг. (млн. даляраў)*




*Крыніца: Белстат*

**Нафтавы донар Еўрасаюза**

За мінулы год беларускі экспарт у краіны Еўрасаюза вырас больш чым у два разы - з 7,6 млрд. да 15,7 млрд. даляраў. У той жа час імпарт з Еўрасаюза вырас прыкладна толькі на мільярд даляраў. Станоўчае сальда ў гандлі з Еўрасаюзам склала ў 2011 годзе 7 млрд. даляраў (для даведкі: у 2010-м станоўчае сальда знаходзілася на адзнацы 50 млн. даляраў).

Адбыліся змены, зрэшты, не азначаючы, што беларуская прадукцыя ў мінулым годзе стала сверхконкурентоспособной і вельмі запатрабаванай у краінах Еўрасаюза.

Прычыны росту беларускага экспарту ў ЕС прынцыпова ў іншым. У мінулым годзе Беларусь амаль на 40% (дзякуючы ўрэгуляванні нафтавага спрэчкі з Расеяй у студзені 2011 г.) павялічыла імпарт нафты і дзякуючы гэтаму нарасціла экспарт нафтапрадуктаў у Еўрасаюз.

Так, фізічны аб'ём экспарту беларускіх нафтапрадуктаў у Нідэрланды павялічыўся з 5 млн. тон у 2010-м да 7,2 млн. тон у мінулым годзе, у Латвію - з 853 тыс. тон да 1,9 млн. тон, у Італію - са 182 тыс. да 653,6 тыс. тон. Да гэтага варта дадаць, што павелічэнню экспартнай выручкі спрыяў і той факт, што за мінулы год, па дадзеных Белстата, сярэднія цэны на нафтапрадукты выраслі на знешніх рынках на 35%.

*Уклад нафтапрадуктаў у экспарт беларускіх тавараў у ЕС*

| | Экспорт нефтепродуктов (в млн. долларов) | Общий объем экспорта (в млн. долларов) |
|---|---|---|
| Нидерланды | 5477 | 6157,9 |
| Латвия | 1640 | 3150,8 |
| Эстония | 439,6 | 578,2 |
| Великобритания | 379,8 | 406,9 |
| Италия | 375 | 553,3 |
| Польша | 283,8 | 1123,2 |
| Литва | 247,2 | 859,3 |

*Крыніца: Белстат*

Пералічаныя фактары дазволілі Беларусі прыкметна павялічыць вартасны аб'ём экспарту ў краіны ЕС і забяспечыць істотнае станоўчае сальда ў гандлі з Захадам.

Праўда, быў і яшчэ адзін фактар, які дазволіў нашай краіне прыкметна павялічыць пастаўкі айчыннай прадукцыі на еўрапейскі рынак.

У 2011 годзе беларускі экспарт у Германію вырас у чатыры разы. Як вы думаеце, за кошт чаго? Беларусь туды стала пастаўляць ... нафту.

У 2011 годзе Расея забяспечыла беларускія НПЗ вуглевадароднай сыравінай, і ў нашай краіны, якая здабывае на сваёй тэрыторыі каля 1,7 млн. тон нафты, з'явілася магчымасць яе экспартаваць. У 2011 годзе Беларусь амаль усю сваю нафту на суму 1,29 млрд. даляраў паставіла ў Германію.

Сумарна нафтавай экспарт Беларусі (нафта плюс нафтапрадукты) у ЕС склаў у 2011 годзе каля 10,4 млрд. даляраў. Такім чынам, атрымліваецца, што беларускі экспарт у ЕС на дзве траціны з'яўляецца нафтавым. Вуглевадароды з'яўляюцца галоўным звяном, якое аб'ядноўвае сёння Беларусь з Еўрапейскім саюзам. Іншых шляхоў (ні эканамічных, ні палітычных) развіцця супрацоўніцтва Беларусі з ЕС сёння не праглядаецца.

**Дзмітрый Заяц.**

НАША САЛІДАРНАСЦЬ

# «Хто найперш варты званьня рыцара - гэта Мікалай Статкевіч»

МІКОЛУ СТАТКЕВІЧА ЎЗНАГАРОДЗІЛІ ПРЭМІЯЙ ІМЯ ЮРЫЯ ЗАХАРАНКІ «З УЗЬНЯТЫМ ЗАБРАЛАМ» ЗА МУЖНАСЬЦЬ У АБАРОНЕ РАДЗІМЫ, ЯКУЮ ТРАДЫЦЫЙНА ЎРУЧАЮЦЬ ДА 23 ЛЮТАГА ПРАВААБАРОНЦЫ ЦЭНТРУ ПРАВАВОЙ ДАПАМОГІ НАСЕЛЬНІЦТВУ І ЦЭНТРУ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА.

Ляўрэатам прэміі імя Юрыя Захаранкі «З узьнятым забралам» за 2011 год стаў былы кандыдат на прэзыдэнта Мікалай Статкевіч. Абвяшчаючы гэтае рашэньне, кіраўніца Цэнтру правоў чалавека Раіса Міхайлоўская адзначыла мужнасьць палітыка, які не скарыўся падчас сьледзтва і ў беларускіх турмах, куды яго кінулі за палітычную барацьбу. Паводле Раісы Міхайлоўскай, камісія, якая вырашала лёс прэміі «З узьнятым забралам» за 2011 год, выбрала Міколу Статкевіча аднагалосна.

Праваабаронца Алег Воўчак адзначыў нязломнасьць і мужнасьць Статкевіча як чалавека і палітыка:

«Я ўжо 14 гадоў займаюся праваабарончай дзейнасьцю і бачу, як некаторыя палітыкі губляюцца, сыходзяць, а вось Мікалай — не, Мікалай ідзе да апошняга. Ён сапраўды ахвяруе сабой для Радзімы».

За 2010 год прэміяй «З узьнятым забралам» быў ушанаваны былы кандыдат на прэзыдэнта Уладзімер Някляеў. Ён тады сядзеў у «амэрыканцы», і дыплём за яго прымала жонка Вольга. «Сёньня я на волі і перакананы, што наступную прэмію ўручыць будучаму ляўрэату сам Мікалай Статкевіч», — сказаў Уладзімер Някляеў падчас уручэньня ганаровага дыплёма жонцы Статкевіча Марыне Адамовіч:

«Калі б зараз былі рыцарскія часы і мы б насілі шчыты і мячы, то з поўным правам на шчыце Міколы Статкевіча было б напісана „Рыцар бяз страху і папроку". Па сёньняшнім часе ён, можа, адзіны, хто мае поўнае права мець на сваім шчыце гэты надпіс».

Таксама Уладзімер Някляеў зачытаў верш, які напісаў для Міколы Статкевіча Рыгор Барадулін. Уладзімер Някляеў сустракаўся з народным паэтам і прынёс на ўручэньне прэміі аркуш з радкамі Барадуліна:

**«Міколу Статкевічу**

*Мужнасьць*
*гартавалася заўсёды*
*Ў небадарным полымі*
*сьвятла.*
*Не здаюцца рыцары*
*свабоды,*
*Каб нязломнай*
*Беларусь*
*была.*

**24.02.2012,**
**Рыгор Барадулін»**

Атрымліваючы ганаровы дыплём, жонка Міколы Статкевіча Марына Адамовіч сказала, што абавязкова перадасьць яму ў Магілёўскую турму навіну пра ўшанаваньне яго ганаровай прэміяй.

«А што да добрых словаў пра майго мужа, то лепш за адміністрацыю калёніі не скажаш, калі яны напісалі, што на шлях выпраўленьня ён ня стаў. Калі ў нашай краіне змагацца за сваю Радзіму — гэта злачынства, то хай ён будзе самым злосным злачынцам», — пажартавала жонка палітвязьня.

**Радыё Свабода.**

ПРАБЛЕМЫ ЧЭМПІЯНАТА

# ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ ПА ХАКЕІ-2014: НЕ ПЕРАНОС З БЕЛАРУСІ, ДЫК БАЙКОТ?

ЕЎРАПЕЙСКАЯ НАРОДНАЯ ПАРТЫЯ ЗАКЛІКАЛА СПАРТЫЎНЫХ ЧЫНОЎНІКАЎ ЕС ПЕРАНЕСЦІ ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ 2014 ГОДА З БЕЛАРУСІ АЛЬБО БАЙКАТАВАЦЬ ЯГО.

У рэзалюцыі, прынятай Палітычнай асамблеяй ЕНП, гаворыцца, што рэжым Лукашэнкі пазбавіў беларусаў асноўных правоў чалавека, у краіне няма дэмакратыі і вяршэнства закону, а таксама фальсіфікуюцца вынікі выбараў.

ЕНП выступае за тое, каб на наступным з'ездзе Міжнароднай федэрацыі хакею, які адбудзецца ў траўні ў Хельсінкі, было прынятае рашэнне аб пераносе чэмпіянату свету-2014 у іншае месца да таго часу, пакуль у Беларусі не адбудзецца зменаў у бок дэмакратызацыі. У выпадку, калі такое рашэнне не будзе прынятае, Еўрапейская народная партыя заклікае ўсе федэрацыі хакею краінаў Еўрасаюза і іншых дэмакратычных дзяржаваў байкатаваць гэтыя спаборніцтвы на тэрыторыі Беларусі.

Еўрапейская народная партыя мае самую вялікую фракцыю ў Еўрапейскім парламенце. Яна аб'ядноўвае правацэнтрысцкія партыі Еўропы. Рух "За Свабоду" супрацоўнічае з ЕНП. Лідар руху Аляксандр Мілінкевіч рэгулярна бярэ ўдзел у самітах Еўрапейскай народнай партыі, на якія з'язджаюцца ў тым ліку кіраўнікі многіх краінаў, уваходзячых і не ўваходзячых у ЕС, альбо лідары апазіцый.

РОДНАЕ СЛОВА

# «БЕЛСАТ» ПАДТРЫМЛІВАЕ V АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНУЮ ДЫКТОЎКУ

ТЭЛЕКАНАЛ «БЕЛСАТ» ПАДТРЫМЛІВАЕ V АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНУЮ ДЫКТОЎКУ, ЯКАЯ ПАЧНЕЦЦА 21 ЛЮТАГА, У МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ. ЯНА ПРОЙДЗЕ ЗА ТРЫ ЭТАПЫ, НАСТУПНЫЯ ДВА ЗАПЛАНАВАНЫЯ НА 15 І 25 САКАВІКА. СЁЛЕТНЮЮ ДЫКТОЎКУ ТРАДЫЦЫЙНА АРГАНІЗОЎВАЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ (ТБМ).

Старшыня ТБМ Алег Трусаў кажа: «Нашая мэта – заклікаць людзей да дыктоўкі, даць ім тэксты, а далей ужо ідзе вольны валанцёрскі рух».

Дыктоўка валанцёрская, а значыць пісаць яе можна не толькі на сядзібе ТБМ, на ўроках літаратуры, слухаючы радыё або ўключыўшы «Белсат», але і зладзіўшы дыктоўку разам са сваімі блізкімі ды сябрамі.

Сёлетнюю дыктоўку арганізатары прысвяцілі юбілеям трох беларускіх літаратараў: Максіма Танка, Якуба Коласа і Янкі Купалы. Тэксты прапануўваюцца на выбар – гэта праграмны верш Максіма Танка і малавядомы ліст Янкі Купалы.

Зміцер Саўка, кіраўнік моўнай службы «Белсату», зазначае: «Дыктоўка – гэта арыгінальны спосаб заявіць пра ненармальнасць сітуацыі. Калі б у нас беларуская мова займала належнае месца ў штодзённасці, то, відаць, людзі б «пісалі дыктоўку» штодня. Інакш кажучы, яны запаўнялі б нейкія бланкі, яны пісалі б штосьці сваім калегам. А тут мы паказваем, што мала беларускай мовы ў штодзённасці, мала мы ёй карыстаемся. Давайце рабіць гэта часцей. І вось наўмыснасць такога, у пэўным сэнсе бессэнсоўнага дзеяння напаўняе яго не фармальным, а сімвалічным сэнсам».

Сімвалічныя выявы Максіма Танка, Якуба Коласа і Янкі Купалы будуць прысутнічаць на паперы і асадках, якія ўдзельнікі дыктоўкі атрымаюць ад Белсату».

«Беларуская мова павінна быць у нашай штодзённасці, і дыктоўка павінна быць штодня ў кожнага чалавека, які ўмее пісаць. На жаль, гэтага няма, таму мы робім дыктоўку наўмысна», – падкрэслівае Зміцер Саўка.

Дыктоўку можна будзе напісаць і праз інтэрнэт. Відэадыктоўка, прачытаная славутаю беларускаю тэлевядоўцаю Зінаідаю Бандарэнкаю, будзе размешчаная на сайце www.belsat.eu.

## РОДНАЯ МОВА

**Максім Танк**

*З легендаў і казак былых пакаленняў,*
*З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,*
*З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,*
*З грымучага ззяння бурлівых крыніц,*
*З птушынага шчэбету, шуму дубровы,*
*І з гора, і з радасці, і з усяго*
*Таго, што пяяло назаўсёды ў аснову*
*Святыні народа, бяссмерця яго, –*
*Ты выткана, дзіўная родная мова.*
*Няма на зямлі таго шчасця і гора,*
*Якога б ты нам перадаць не магла.*
*Няма такіх нетраў, глыбокага мора*
*І гор, праз якія б ты не правяла*
*Мяне на радзіму, туды, дзе сягоння*
*Стаіць акрываўлены вораг з пятлёй*
*Над спаленай хатай, над родным загонам,*
*Над будучыняй і песняй маёй –*
*Над тым, што было і што век будзе вольным.*
*Народ пранясе цябе, родная мова,*
*Святлом незгасальным у сэрцы сваім*
*Праз цемру і годы змагання суровых.*
*Калі ж ападзе і развеецца дым*
*І нівы васкросшыя закаласяцца, –*
*Ізноў прашуміш ты вясновым дажджом,*
*Ізноў зазвініш ты у кожнай у хаце,*
*Цымбалам дасі іх сарэбраны гром*
*І вусны расквеціш усмешкай дзіцяці.*
*1943*

ЕЎРАПЕЙСКІ КІРУНАК

# ПРАВЕРКА НА ЯЙЦЫ

ЗАЯВА АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ ПРА МАГЧЫМЫЯ ДЗЕЯНЬНІ АФІЦЫЙНАГА МЕНСКУ Ў АДКАЗ НА ЭЎРАПЕЙСКІЯ САНКЦЫІ – ДЭМАНСТРАЦЫЯ "НЕНАХІЛЯЛЬНАСЬЦІ", РЭАЛІЗАЦЫЯ ПРЫНЦЫПУ "ЛЕПШАЯ АБАРОНА – ГЭТА НАСТУП". АДНАК ПАКУЛЬ ДЭМАНСТРУЕЦЦА АДНО – НАМЕР, ПАГРОЗА, КІРАЎНІК БЕЛАРУСІ НЕ ПАВЕДАМІЎ, ДЗЕ ПРАЛЯГАЕ ПРЫГАДАНАЯ ІМ "ЧЫРВОНАЯ ЛІНІЯ", ПАСЬЛЯ ПЕРАХОДУ ЯКОЙ ГЭТЫЯ ПАГРОЗЫ МОГУЦЬ СПРАЎДЗІЦЦА.

Словы, што Беларусь будзе абараняцца, "нават калі мы застанёмся ў адзіноце, без Расеі, Кітаю, бязь іншых нашых сяброў", ускосна сьведчаць пра тое, што звароты Менску да Масквы і Астаны праявіць салідарнасьць у гэтым пытаньні засталіся, гледзячы па ўсім, без станоўчага адказу.

Тым ня менш сёе-тое Менск сапраўды можа ў адказ зрабіць. Гэта найперш зваротныя візавыя санкцыі, што дыпляматычна карэктна, але па сутнасьці сьмешна – чыноўнікі ЭЗ ня так і рвуцца ў «сінявокую».

Больш сур'ёзная мера – дэманстратыўнае ўзмацненьне жорсткасьці рэпрэсіяў супраць апазыцыі і грамадзянскай супольнасьці, каб паказаць, што эфэкт санкцый супрацьлеглы чаканаму. Нарэшце, гэта эканамічныя меры ў адказ – гэта варыянт найбольш эфэктыўны, але і найбольш небясьпечны для самога афіцыйнага Менску. Вайну нэрваў можна і прайграць, асабліва з улікам несувымернасьці эканамічных патэнцыялаў.

Аднак пагрозы могуць пэўны плён і прынесьці. Час для заявы Лукашэнка абраў невыпадкова. Нядаўні візыт у Беларусь прадстаўніка зьнешнепалітычнай службы ЭЗ Гунара Віганда, заявы, зробленыя ім у Менску, паказалі, што Эўропа знаходзіцца на пэўных ростанях – працягваць ранейшую палітыку адносна Беларусі ці карэктаваць.

Віктар Марціновіч нядаўна ў сваім блогу абураўся млявым тонам эўрапейскай дыпляматыі. Аднак гэтая млявасьць можа быць абумоўленая тым, што Беларусь насамрэч мае для Эўропы, як гэта горка ні гучыць, другараднае значэньне.

Тон размоваў, скажам, з Сырыяй ці Іранам зусім іншы. У адрозьненьне ад гэтых краін, адносіны ЭЗ зь Беларусьсю не зьвязаныя з праблемамі міжнароднай бясьпекі. На Іран ціснуць не таму, што ён парушае правы чалавека (хаця і парушае), а таму што іранская атамная бомба ёсьць пагроза рэгіянальнай і сусьветнай стратэгічнай стабільнасьці. Беларусь на гэтую стабільнасьць не замахваецца, палітыка санкцый ЭЗ адносна яе мае галоўным чынам маральную матывацыю. А з нагоды гэтай матывацыі варта прыгадаць зьедлівую рэпліку Генры Кісынджэра, сказаную ў сувязі з вайной у Косаве, але ня толькі: «Жаданьне заходніх дэмакратычных краінісьці на рызыку ў імя абароны маральных каштоўнасьцяў вызначаецца вышынёй палёту іх бамбавікоў». Сваёй заявай Лукашэнка імкнецца павысіць рызыку палітыкі каштоўнасьцяў для Эўропы, фігуральна кажучы, «зьнізіць вышыню палёту» эўрапейскіх палітычных «бамбавікоў».

Ці дасьць гэта плён? Магчыма (і нават хутчэй за ўсё) гэтыя грозныя абяцаньні Лукашэнкі – проста блеф. Пра магчымасьць дзеяньняў афіцыйнага Менску ў адказ гаварылася ня раз, як, дарэчы, неадназова гучалі і абяцаньні дакладна палічыць, хто і колькі каму вінны ў адносінах Беларусі і Расеі. Але дагэтуль гэтыя пагрозы ніколі ня спраўджваліся.

У міжнароднай палітыцы пагроза часам мацней за яе выкананьне. І сёньняшнія заявы Лукашэнкі заснаваныя хутчэй за ўсё на яго меркаваньні, што «ў эўрапейскіх лідэраў няма яец». Рэакцыя Эўропы будзе ў пэўнай ступені праверкай, ці мае рацыю кіраўнік Беларусі.

КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ

# КТО ВИДЕЛ «ЕВРОФЕСТ», ТОТ В ЦИРКЕ НЕ СМЕЕТСЯ

С ОТБОРОМ НАЦИОНАЛЬНОГО ИСПОЛНИТЕЛЯ НА "ЕВРОВИДЕНИЕ" ХОТЕЛИ ИЗОБРАЗИТЬ СКАЗКУ ПРО ЗОЛУШКУ, А ПРЕДЪЯВИЛИ ПУБЛИКЕ ПАРВЕНЮ. "ДЕВОЧКА-СИРОТА, КОТОРАЯ ВСЕГО ДОБИЛАСЬ САМА", ОКАЗАЛАСЬ КАК МИНИМУМ НЕ СИРОТИНУШКОЙ. И КАК МАКСИМУМ – ДОБИЛАСЬ СОМНИТЕЛЬНОЙ РЕПУТАЦИИ.

Алена Ланская пока пребывает в образе жертвы и отказывается общаться с журналистами. А все, кто подыгрывал этому шоу, ищут себе новое амплуа.

Организаторы фестиваля «Еврофест» – Александр и Анастасия Тихановичи, которых на совещание к Лукашенко не пригласили, – провели истеричную пресс-конференцию с заламыванием рук: «Не виноватые мы!» Министр культуры Павел Латушко прочитал пред президентом покаянную речь по бумажке. «Не причастен, не участвовал, поручений не давал, узнал на сцене, должен был, самокритично оцениваю...»

Главный спонсор, связь фамилии которого с Ланской для всех более-менее причастных давно является секретом Полишинеля, решил обидеться и соскочить. «Для всех нас очень важно, чтобы наша страна хорошо позиционировалась в Европе, чтобы мы действительно показали, что мы гордая независимая и достаточно культурная, образованная страна. И что мы можем сегодня достойно представлять нашу эстраду на европейском рынке, – произнес заученную фразу глава «Амкодора» Александр Шакутин, но далее речь пошла не так гладко. – Но, к сожалению, события, которые произошли потом, в том числе после голосования, и та грязь, которая вылилась в Интернете... Я когда прочитал... Мне, Александр Григорьевич... Позвольте я окажу финансовую помощь, но идеологически участвовать в этом мероприятии и доведении его до финала мне сложно как мужчине. Потому что я никогда в этой жизни не позволял обижать женщин».

Однако всех превзошел глава Национальной телерадиокомпании Геннадий Давыдько, который даже в этой куче навоза, вывалившейся в связи с «Еврофестом», решил поискать что-нибудь для себя полезное.

– Данная ошибка (это ошибка, я ее признаю) – невнимательность к процедуре подсчета голосов – сделала меня мудрее и опытнее как руководителя, – скромно подытожил Давыдько.

Без слов, как говорится. Потому что в итоге в этой истории нашелся Баранов на заклание (как написал Сергей Малиновский). Оказывается, это продюсер Дмитрий Викторович Баранов, правая рука Тихановичей, в отечественном шоу-бизнесе является самым влиятельным и инициативным.

**Светлана Калинкина.**

КАНФЛІКТ З ЕЎРОПАЙ

# ЭЎРАЗЬВЯЗ АДКЛІКАЕ АМБАСАДАРАЎ ЗЬ МЕНСКУ

«КРАІНЫ ЭЎРАПЕЙСКАГА ЗЬВЯЗУ НА ЗНАК САЛІДАРНАСЬЦІ АДКЛІЧУЦЬ СВАІХ АМБАСАДАРАЎ ЗЬ БЕЛАРУСІ», — ЗАЯВІЛА КІРАЎНІЦА ЭЎРАПЕЙСКАЙ ДЫПЛЯМАТЫІ КЭТРЫН ЭШТАН. УСЕ КРАІНЫ ЭЎРАЗЬВЯЗУ ТАКСАМА ВЫКЛІЧУЦЬ БЕЛАРУСКІХ АМБАСАДАРАЎ У СВАЕ МІНІСТЭРСТВЫ ЗАМЕЖНЫХ СПРАВАЎ.

Рашэньне было прынятае пасьля тэрміновай нарады, якую Кэтрын Эштан склікала ў Брусэлі пасьля зьяўленьня інфармацыі пра тое, што афіцыйны Менск запрапанаваў амбасадарам Польшчы і ЭЗ у Менску ад'ехаць у свае краіны на кансультацыі.

Пасьля нарады прэсавая сакратарка Эштан Мая Кацьянчыч заявіла:

«На знак салідарнасьці і еднасьці мы дамовіліся, што паслы краінаў Эўразьвязу ў Менску будуць усе адкліканыя для кансультацыяў у свае краіны. Усе краіны Эўразьвязу таксама выклічуць беларускіх амбасадараў у свае міністэрствы замежных справаў».

Раней міністар замежных справаў Нямеччыны Гіда Вэстэрвэле заявіў у Брусэлі, што Бэрлін адкліча свайго пасла зь Менску, бо «захады супраць ЭЗ і Польшчы — гэта таксама захады супраць Нямеччыны».

МЗС Польшчы назваў крокі Менску «непрыязнымі», а канцылярыя прэзыдэнта Браніслава Камароўскага паінфармавала, што прэзыдэнт «са шкадаваньнем успрыняў інфармацыю аб гэтым незразумелым рашэньні».

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 37455, маб. +375292184739

**Падпісана да друку 29.02.2012 у 16.40.** Наклад: 290 асобнікаў.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.